Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 15 400.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Серада, 18 сакавіка 1998 г. № 27 Кошт свабодны

**СВАБОДА**
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Саміт адмяняецца

На 19 сакавіка ў Маскве планаваўся саміт кіраўнікоў краінаў СНД. Прэзідэнт Лукашэнка ўжо пачаў пакаваць чамаданы, каб напярэдадні сустрэцца ў «саюзе двух» з прэзідэнтам Ельцыным. Аднак учора раніцай з Масквы прыйшла непрыемная навіна — саміт адмянілі і перанеслі на трэцюю дэкаду красавіка. Такі ж лёс напаткаў і сустрэчу кіраўнікоў «саюза чатырох» (Беларусь, Расія, Казахстан і Кіргізія). Цяпер Лукашэнку давядзецца кардынальна памяняць «рабочы тыдзень прэзідэнта» і замест «сустрэчаў у вярхах» заняцца валютай альбо спортам.

Адной з прычынаў адмены саміту стала хвароба Барыса Ельцына, якому ўрачы парэкамендавалі прадоўжыць «полупостельный» рэжым. Ён працягвае курс лячэння вострага рэспіраторнага захворвання ў падмаскоўнай загараднай рэзідэнцыі.

У мінскай штаб-кватэры СНД патлумачылі, што адмена саміту можа быць звязаная і з няяўкай на гэтую важную сустрэчу прэзідэнта Арменіі, які пакуль не абраны. Не было пэўнасці і з удзелам прэзідэнта Азербайджана. Нягледзячы на гэта, выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня намагаўся з усіх сілаў правесці сустрэчу менавіта 19 сакавіка і такім чынам падрыхтаваць у Маскве глебу для сустрэчы Лукашэнкі з Ельцыным, якую нядаўна міністр Іван Антановіч назваў «надзвычайна патрэбнай». Пра гэта сведчылі ўпэўненыя інтэрв'ю І.Каратчэні ў Маскве.

Прэзідэнт Ельцын даручыў віцэ-прэм'еру Івану Рыбкіну, міністру па справах СНД Анатолю Адамішыну і першаму намесніку міністра замежных справаў Барысу Пастухову наведаць сталіцы краінаў СНД, каб узгадніць новыя даты самітаў СНД, «чацвёркі» і «двойкі».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Стоўбцы зноў распісалі

**На сценах у Стоўбцах зноў з'явіліся антыпрэзідэнцкія надпісы.**

Толькі нядаўна скончыўся судовы працэс над Шыдлоўскім і Лабковічам, якія распісалі Стоўбцы «апазіцыйнымі» надпісамі, а на многіх будынках райцэнтра ўжо з'явіліся свежыя надпісы. Невядомыя апазіцыянеры пакінулі на сценах гарадской бальніцы, бібліятэкі, аддзела адукацыі і некалькіх мясцовых крамаў (усяго каля 10 аб'ектаў) традыцыйныя лозунгі «Жыве Беларусь!», «Свабоду палітвязням», «Далоў Луку» і інш.

Дзіўна, але рэакцыя стаўбцоўскай міліцыі на гэтую акцыю апазіцыянераў была даволі стрыманай. Як нам паведамілі ў міліцэйскім гараддзеле, ніякага злачынства ў надпісах тыпу «Жыве Беларусь!» міліцыянты не бачаць, і таму крымінальнай справы па гэтым факце яны не заводзілі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Дзеці заўсёды былі ў нас «прадметам раскошы»

*А цяпер гэта такі груз, які мала якая сям'я можа вытрываць*



**Па дадзеных міністэрства статыстыкі, амаль палова беларускіх дзяцей жыве ў сем'ях з даходам ніжэй рысы беднасці.**

Рыса беднасці — гэта так званы пражытачны мінімум, які ўстаноўлены ў нас у памеры 2/3 ад мінімальнага спажывецкага бюджэту (МСБ), таксама не вельмі вялікага (прыкладна 2,3 млн. рублёў у студзені). Але калі лічыцца, што, атрымоўваючы свой МСБ, неяк можна пражыць, то нават афіцыйна прызнаецца, што ніжэй пражытачнага мінімуму жыць нельга. Той, хто атрымлівае менш, ужо не мае магчымасці задавальняць свае мінімальныя фізіялагічныя і сацыяльныя патрэбы.

Гэта значыць, што за рысай беднасці пачынаецца натуральны голад, дзіця спачатку губляе магчымасці да фізічнага і інтэлектуальнага развіцця, а затым — фізічнае і псіхічнае здароўе. Яно не можа асвоіць школьную праграму, і асноўная яго сацыяльная функцыя — вучоба — становіцца для такога дзіцяці непасільным заняткам. Мне могуць запярэчыць, сказаць, што амаль усе нашы дзеці вучацца. Але чаму? Таму што не прапілі яшчэ апошні розум іхнія бацькі. Адмаўляючыся ад самага неабходнага, яны і кормяць, і апранаюць дзяцей — выкручваюцца як толькі могуць. Дзеці заўсёды былі ў нас «прадметам раскошы», а цяпер гэта такі груз, які мала якая сям'я можа вытрываць.

Яшчэ адзін момант. Улады з ахвотай распавядаюць пра тое, што каб лепей жыць, трэба больш працаваць. Але ж вось такая характэрная для нашага рынкавага сацыялізму дэталь: у сем'ях пенсіянераў матэрыяльнае становішча лепшае, чым у сем'ях з двума і нават трыма працаўнікамі. Сярод пенсіянераў ніжэй пражытачнага мінімума (якое гадкае слова!) жывуць 25 працэнтаў, а сярод сем'яў працуючых — больш за 30%.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

## Адміністрацыя выпусціла інструкцыю да юбілею БНР

**Не толькі апазіцыйныя сілы, але і ўлады рыхтуюцца адзначыць 80-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта разаслала ва ўсе гарады краіны інструктыўны ліст пад назвай *«Вокруг «юбилея» БНР»*. У гэтым лісце, які адрасаваны кіраўнікам вертыкалі і прадпрыемстваў *«для проведения в марте 1998 г. единых дней информирования»*, прэзідэнцкія ідэолагі распавядаюць, як *«на самой справе»* пачыналася гісторыя Беларускай Народнай Рэспублікі.

Аказваецца, рашэнне аб стварэнні першага ўрада БНР — Народнага Сакратарыята — прымалі ў асноўным эсэры ды іншыя сіяністы, якія ўвайшлі ў гэты Сакратарыят, абвесціўшы сябе да Устаноўчага з'езда вярхоўнай уладай на Беларусі. Аднак БНР, маўляў, толькі дэкларавалася. Германская акупацыйная адміністрацыя спакойна рэагавала на гэтую акцыю. Германіі магла спатрэбіцца *«кішэнная БНР»*. *«Такім чынам, у прамым сэнсе БНР дзяржавай не была,* — пішуць аўтары інструкцыі. — *Рэальнае нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва ў Беларусі пачалося з БССР і праходзіла на савецкай аснове. Сёння свабодная Рэспубліка Беларусь будуе дэмакратычную прававую дзяржаву, узяўшы за аснову мадэль, прапанаваную прэзідэнтам Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам»*.

Прэзідэнцкія гісторыкі паведамляюць, што ўжо два гады наша краіна жыве *«па Канстытуцыі 1994 года са зменамі, унесенымі ў яе па волі народа ў лістападзе 1996 года. І кожны не прадузяты чалавек бачыць, што гэтыя змены істотна паўплывалі на эканоміку і палітыку, на ўвесь рытм дзелавой адказнасці і жыццядзейнасці людзей»*. Змены ў дзяржаве адбыліся дзякуючы *«волі і дзяржаўнай зрэласці прэзідэнта»*. Ці выконваюцца ў нас асноўныя дэмакратычныя правы і свабоды? — пытаюцца аўтары інструкцыі і адразу ж адказваюць: *«Так, выконваюцца! У прыватнасці, гарантуецца вяртанне ўкладаў насельніцтву, жанчынам прадастаўлены роўныя з мужчынамі магчымасці»*. Ну, а калі вы не здолелі абараніць свае правы ў Беларусі, то дзякуючы зменам, унесеным у канстытуцыю, наш чалавек упершыню атрымаў права *«звяртацца ў міжнародныя арганізацыі»*.

Гісторыя пра ўчарашні дзень і сённяшнюю канстытуцыю заканчваецца ўпэўненым сцвярджэннем: маўляў, прыняўшы змены ў канстытуцыю, *«наша краіна набыла свой нацыянальны твар на міжнароднай арэне»*. З гэтым можна пагадзіцца. Пытанне ў тым, які гэты твар атрымаўся.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Беларусаў звальняюць з Чарнобыльскай АЭС

**Сярод трохтысячнага персаналу Чарнобыльскай атамнай станцыі значную частку працоўных месцаў займаюць нашыя землякі з Хойніцкага і Брагінскага раёнаў Гомельшчыны.**

На работу ў пасёлак Прыпяць яны трапляюць электрычкай, якая некалькі разоў на дзень курсіруе са Славуціча (Чарнігаўшчына) да ЧАЭС (Кіеўшчына) і назад, спыняючыся на тэрыторыі Брагінскага раёна. Неўзабаве гэтыя прыпынкі будуць непатрэбныя, бо днямі выдадзены загад аб скарачэнні персаналу на Чарнобыльскай АЭС. Ён закрануў у першую чаргу менавіта беларускіх энергетыкаў, якія працавалі на ўкраінскай атамнай станцыі. Многім з іх наўрад ці ўдасца знайсці дома, у Беларусі, работу па спецыяльнасці.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Барысаў ужо святкуе

**12 сакавіка ўрачыстым вечарам у гарадскім Палацы культуры распачаліся ў Барысаве святочныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да 80-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Для арганізацыі святкавання гэтай урачыстай даты быў створаны аргкамітэт, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі шэрагу дэмакратычных партыяў. У рамках святочнага тыдня пройдуць цыкл культурна-гістарычных вечароў, маладзёжная дыскатэка, шахматны турнір і футбольны матч паміж камандамі гарадскіх арганізацыяў БНФ і БСДП (Народная Грамада) у Барысаве. На 21 сакавіка запланаваны масавы мітынг у гонар угодкаў абвяшчэння БНР.

*БелаПАН*

## Памочнік прэзідэнта стаў міністрам спорту

**Аляксандр Лукашэнка зрабіў новае прызначэнне ў Кабінеце міністраў: крэсла шэфа міністэрства спорту і турызму замест Уладзіміра Макейчыка заняў 49-гадовы Мікалай Ананьеў, які працаваў памочнікам прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і турызму.**

Мікалай Ананьеў нарадзіўся ў г.Асіповічы Магілёўскай вобласці. Закончыў Беларускі інстытут фізкультуры ў Мінску і Беларускую сельгасакадэмію ў Горках. У 1970-71 гг. Ананьеў быў старшынёю Асіповіцкага камітэта па фізкультуры і спорту, затым працаваў трэнерам па баскетболе, завучам Асіповіцкай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы. З 1979 па 1986 год займаў пасты ў партапараце, а ў 1987 г. узначаліў спартыўнае ведамства ў Магілёўскім аблвыканкаме. У траўні 1997 г. на алімпійскім сходзе быў выбраны віцэ-прэзідэнтам НАК Беларусі, а ў чэрвені стаў і памочнікам прэзідэнта па пытаннях фізкультуры, спорту і турызму.

Змяшчэнне Уладзіміра Макейчыка — падзея прадказальная. Лукашэнка быў незадаволены ім яшчэ падчас мінулагодняга чэрвеньскага аб'езду спартовых базаў. Не вельмі добрымі былі і адносіны Макейчыка з Ананьевым. Апошні ў адным з пасляалімпійскіх інтэрв'ю папракаў Макейчыка ў тым, што ён «ніяк не можа змірыцца з тым, што НАК — гэта актыўная грамадская арганізацыя, а не ўпраўленне па алімпійскіх справах міністэрства».

Штуршком да прызначэння Ананьева было, з аднаго боку, незадавальненне Лукашэнкі становішчам справаў у некаторых ключавых відах спорту (футболе, баскетболе, гандболе), з другога — «канструктыўная дзейнасць» Ананьева ў НАКу. Цяпер Мікалай Канстанцінавіч, як калісьці зараз пакойны Рыжанкоў, фактычна курыруе два ведамствы: дзяржаўнае — міністэрства спорту і турызму і грамадскае — НАК. Да чаго гэта прывядзе — пакажа бліжэйшы час.

**Сямён ПЛОЦ**

## У Ціцянкова – новыя вакансіі

**На мінулым тыдні арыштавалі яшчэ аднаго работніка ўпраўлення справамі прэзідэнта.**

Гэта Мікалай Савіцкі, ён працаваў камендантам будынка, у якім размяшчаецца Камітэт дзяржаўнага кантролю Беларусі.

Савіцкі і ягоны «падзельнік» на працягу некалькіх месяцаў займаліся вымагальніцтвам. Яны прадстаўляліся супрацоўнікамі Камітэта дзяржкантролю і праводзілі праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці шэрагу мінскіх прадпрыемстваў. Падчас адной з такіх праверак «кантралёры» запрасілі 10 тысячаў долараў у кіраўніка аднаго дзяржаўнага прадпрыемства, які паведаміў пра гэта ў камітэт па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю МУС.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

**Падпіска: апошні дзень!**

**Сёння, 18 сакавіка — апошні дзень падпіскі на НАВІНЫ.**

**Наш падпісны індэкс 63312**

*США*

## Стране нужны умные иностранцы

**Соединенные Штаты нуждаются в дополнительном «притоке мозгов» для обеспечения конкурентоспособности своей продукции и успешного развития наукоемкого производства и научных программ.**

Кампанию в поддержку такого тезиса начали в Вашингтоне представители высокотехнологичных отраслей и лоббирующая их интересы группа законодателей. Они, в частности, добиваются увеличения ежегодной квоты для иностранных специалистов, приглашаемых на временную работу в США. Сейчас она составляет 65 тысяч человек.

*«Компании по всей Америке сталкиваются с серьезной нехваткой высококвалифицированных специалистов»*, — заявил на слушаниях в сенатском юридическом комитете сенатор Спенсер Абрахам. Он сообщил, что намерен выступить с законодательной инициативой об увеличении квоты для приглашаемых квалифицированных иностранных рабочих. По его словам, в прошлом году американские работодатели впервые полностью исчерпали квоту, установленную для такой категории в 1990 году. В соответствии с этим очень широкий круг иностранных специалистов — от программиста-компьютерщика до модельера — могут устраиваться на работу в США сроком до 6 лет.

Это предложение находит поддержку в Белом доме, который, по заявлению его представителей, якобы рассматривает вариант 50-процентного увеличения квоты. Ряд крупных американских компаний, в том числе «Майкрософт», вообще выступают за предоставление им права нанимать неограниченное количество иностранных специалистов. По данным Ассоциации информационных технологий Америки, в январе на предприятиях и фирмах США насчитывалось 346 тысяч незаполненных вакансий, требующих соответствующей квалификации, что составляет приблизительно 10 процентов общего числа рабочих мест в информационно-технологической отрасли. Незаполненность этих вакансий, считает президент Ассоциации Хэррис Миллер, стала одним из основных факторов, сдерживающих дальнейшее развитие компаний.

Противники увеличения квоты утверждают, что привлечение дополнительного количества иностранных рабочих позволяет предпринимателям сдерживать рост заработной платы, поскольку приезжие специалисты готовы работать и за меньшую плату. По их мнению, такая практика не только поощряет дополнительный иммиграционный поток, но и отбивает у американских рабочих охоту к повышению квалификации. Есть примеры того, как работодатели отказывают в найме американцам, предпочитая «дешевых» зарубежных специалистов. Критики ставят под сомнение и факт наличия большого числа незанятых рабочих мест в информационно-технологическом секторе, поскольку там не наблюдается естественного при такой ситуации повышения зарплаты. Некоторые законодатели предлагают решить проблему с помощью промежуточного варианта: поддержать законопроект об увеличении квоты, но под обязательство предпринимателей содействовать улучшению общеобразовательной системы в стране с тем, чтобы в будущем у компаний не было необходимости полагаться на иностранные кадры.

**Сергей ХАБОТИН**

## Казахстан – большой секрет

**Комитет национальной безопасности Казахстана выступил инициатором законопроекта «О государственных секретах», который в скором времени будет рассмотрен нижней палатой парламента.**

Необходимость принятия такого закона спецслужбы объясняют тем, что в республике участились случаи утечки закрытой информации. *«Мы провели в министерстве экологии и биоресурсов 43 проверки и выявили там исчезновение 380 документов, имевших гриф «Секретно» и «Совершенно секретно»*, — заявил на встрече с журналистами первый заместитель начальника Департамента контрразведки КНБ РК генерал-майор Владимир Божко. — *Мириться с подобной халатностью мы не намерены. Государственные секреты в Казахстане валяться на дороге больше не будут. Демократия демократией, но ставить под угрозу безопасность государства никто права не имеет»*.

## Збигнев Бжезинский – почетный гражданин Львова

**Почетным гражданином старинного западноукраинского города Львова стал известный американский политик и политолог Збигнев Бжезинский.**

Такое решение, как пояснил мэр Львова Василий Куйбида, принято на сессии городского совета. Сам Збигнев Бжезинский, занимавший в администрации Джимми Картера пост помощника президента по национальной безопасности, ничего не ведал о намерении городских властей Львова и скорее всего узнает о присуждении ему почетного звания из специального послания, извещающего его об этом.

Народные избранники Львова мотивировали свое решение тем, что Бжезинский внес *«существенный вклад в развал империи зла, за что получил звание врага коммунистической системы номер 1»*.

## Премия журналистам

**В Нью-Йорке объявлены лауреаты престижной в США премии за лучшие журналистские работы минувшего года.**

В категории «иностранный репортаж» премии удостоена журналистка из нью-йоркской газеты «Ньюсдей» за серию из 25 материалов о кризисе системы здравоохранения в республиках бывшего СССР. Корреспондент газеты «Вашингтон пост», проработавший долгие годы в Москве, получил премию за статью, где он первым рассказал о еврейских корнях нынешнего государственного секретаря США Мадлен Олбрайт.

Старший фоторедактор лондонского бюро агентства «Ассошиэйтед Пресс» Хорст Фаас и фотограф Тим Пейдж удостоены награды за подготовку книги-фотоальбома «Реквием». В книге отдается дань памяти 135 фоторепортерам, погибшим при освещении войн в Индокитае в период с 1950 по 1975 год.

Премия была учреждена в 1949 году в память репортера телекомпании «Си-Би-Эс» Джорджа Полка, убитого при подготовке материала о гражданской войне в Греции.

# «Подпольная» жизнь Саддама

У въезда на двухэтажный мост имени Саддама в Багдаде возвышается огромный памятник Саддаму. «Меч всех арабов» гордо взирает с многочисленных портретов, то широко улыбаясь, то напряженно застыв в военной форме, пока вы едете по столице от университета имени Саддама к детской больнице его же имени.

### Мифический герой

Утром, развернув багдадскую газету, вы неизменно обнаруживаете на первой полосе подробнейшее описание вчерашней деятельности «президента-лидера». Вечером ваша телевизионная программа неожиданно прерывается одами, восхваляющими могущество Саддама или прославляющими его мудрость песнями. Присутствие этой сильной личности ощущается в Ираке повсюду, несмотря на все попытки США покончить с ним. Каждое новое обострение отношений с Вашингтоном придает еще больше мистики его власти, сплачивает вокруг него изолированную страну и делает его мифическим героем всего арабского мира.

Пройдитесь сегодня по улицам Багдада — и вы встретите много таких, как 43-летняя Фатма эль Бадри, служащая сельскохозяйственного агентства. *«Я скажу вам, почему американцы хотят бомбить Ирак*, — говорит она. — *Потому что Саддам — единственный в мире лидер, который осмеливается им противостоять, а они не могут ему этого простить»*. Иракцам говорят, что Саддам борется против США, пытающихся унизить их страну, посылая экспертов ООН, которые хотят осквернить президентские дворцы — символ его верховной власти. *«Это вопрос нашего достоинства*, — говорит другой житель Багдада. — *Мы не должны унижаться из-за каких-то экономических санкций»*.

### Сразу тридцать Хиросим

В Багдаде все считают, что во всем виноваты американцы, которые только и ищут повода, чтобы нанести новый удар и истребить побольше мирного населения. Естественно, в Ираке не принято говорить о том, что в тех лишениях, которым подвергается иракский народ в результате экономической блокады, во многом виноват сам Саддам Хусейн, который отверг предложение ООН в два раза увеличить поставки продовольствия и медикаментов, доведя их до общей суммы в 5 миллиардов долларов.

В то время как, по заявлениям Багдада, иракские дети умирают от голода и нехватки медикаментов, Саддам строит по всей стране роскошные дворцы и расходует полученные от продажи нефти доллары на производство нового бактериологического оружия. Производство ядерного оружия требует привлечения высококвалифицированной рабочей силы, финансовых и промышленных средств, и поэтому такие заводы легко обнаружить.

Иначе обстоит дело с химическим и бактериологическим оружием, производимым на имеющихся в каждой стране обычных химических заводах. И если применение химического оружия ограничено географически, то два килограмма спор антракса, распыленных над крупным городом, способны уничтожить от одного до трех миллионов человек одновременно. Это 30 Хиросим сразу. Примерно такими же свойствами обладают ботулиновые токсины и другие вещества, которых, по признанию самого Багдада, в Ираке произведено уже несколько десятков тысяч литров. Поэтому главным условием разрешения иракского кризиса является полное уничтожение всего произведенного Саддамом Хусейном оружия массового поражения.




*На снимке: демонстрация в Багдаде.*

### На осле в президенты

Саддам родился в маленькой бедной деревушке на берегу реки Тигр. Его отец вскорости умер, и Саддама воспитывал дядя — убежденный мусульманин-суннит. В партию Баас он вступил в 18 лет, еще в школе. По заданию партии 22-летний Саддам пытался убить премьер-министра Абдула Кассима, но теракт не удался.

Саддам, переодевшись в женское платье и прикрыв лицо паранджой, убежал в Сирию. (Об этом факте официальные биографы обычно умалчивают, так как для мужчины-мусульманина ношение женской одежды является крайне постыдным). Раненый, идти сам он не мог, поэтому ехал на осле, которого впоследствии ему пришлось съесть. Из Сирии он перебрался в Египет, и президент Насер в 1962 году выделил Саддаму специальную правительственную помощь для учебы в Высшей юридической школе Каира.

Когда партия Баас пришла к власти, Саддам возвратился в Ирак. После очередного поражения партии на выборах его посадили в тюрьму, откуда Саддам убежал и в 1968 году был одним из руководителей вооруженного восстания Баас. Менее года потребовалось тогда Саддаму Хусейну, чтобы стать во главе правящей партии и занять пост президента Ирака.

### Панический страх

После почти двадцатилетнего бессменного правления Ираком 61-летний Саддам по-прежнему держит свою страну в железном кулаке. Человек, играющий роль любимого вождя иракского народа, панически боится за свою жизнь. Этот страх принимает параноидальные формы во время каждого нового обострения отношений с США и их союзниками.

По свидетельству работавших с ним раньше сотрудников, Саддам редко ночует в одном и том же месте два раза подряд. Иногда он посылает вперед несколько кортежей автомобилей, а сам, надев простую одежду бедуина, садится за руль совсем другой машины с одним или двумя телохранителями из «специальной гвардии», подчиняющейся только ему лично. Он ночует в простых домах, хозяева которых до последнего момента не знают, кто будет их гостем. На следующее утро он поспешно исчезает, чтобы провести следующую ночь в палатке посреди пустыни, на заброшенной ферме или в автофургоне.

С адресованных ему писем помощники обязательно снимают фотокопии, потому что Саддам давно не берет в руки конверты, опасаясь, что они могут быть отравлены. Его ближайшему окружению под страхом смерти запрещено раскрывать его местонахождение даже его премьер-министру Тарику Азизу и членам семьи. Во время ракетных ударов 1990 и 1991 гг. Саддама никто не мог найти. Никто не знал, где он был, — ни члены Революционного совета, ни члены кабинета министров. Те, кто желает с ним встретиться, должны направить ему письменное прошение, и он сам назначит место и время встречи.

По некоторым оценкам, личная охрана Саддама и его семьи насчитывает 10.000 исключительно преданных телохранителей из «специальной гвардии», которые тщательно отбирались из родственников и земляков Саддама. Еще около 70.000 «республиканских гвардейцев» охраняют школы, общественные здания и другие объекты по всей стране. Как считают в соседних арабских странах, со всеми этими мерами предосторожности Саддам практически неуязвим, если только в Ираке не будут высажены войска со специальным заданием найти и убить Саддама.

### Он прекрасно понимает...

Задача номер один для Саддама Хусейна — добиться отмены экономических санкций. Он чувствует себя достаточно уверенно, чтобы пойти на любые незначительные уступки, не боясь потерять свое лицо. Пока не будут сняты санкции, он остается лидером униженной, полуразоренной страны, лишенным возможности использовать нефтяные богатства для восстановления былой военной и экономической мощи Ирака. Пока инспекторы ООН осуществляют контроль за производством оружия, международные эксперты той же ООН могут входить практически в любой иракский дом с целью проверки справедливости распределения среди населения купленного за нефтедоллары продовольствия.

Саддам прекрасно понимает, что США никогда не закончат свои инспекции в Ираке и не снимут экономические санкции до тех пор, пока он находится у власти. На данном этапе Саддам может рассчитывать еще на какой-то диалог с ООН. Но все переговоры генерального секретаря ООН Кофи Аннана по урегулированию ситуации в Ираке будут лишены смысла, пока мир будет жить под угрозой смертоносного оружия, находящегося в руках диктатора, который не признает никаких законов.

*По материалам зарубежной прессы подготовил*

**Владимир АБАНИН**

## Мытнікаў судзяць за хабар

**Распачата крымінальная справа супраць аднаго супрацоўніка Ашмянскай мытні, якая знаходзіцца на мяжы з Літвой.**

Па папярэдніх ацэнках, гэты мытнік нанёс страты дзяржаве больш як на 3 мільярды рублёў. У прыватнасці, ён прапускаў на беларускую тэрыторыю тавары без аплаты адпаведнай пошліны. А супрацоўнік суседняй мытні (Астравецкай) В.Буйко ўжо асуджаны за падобныя дзеянні. Ён атрымаў тры гады «хіміі» за 120 доляраў хабару, які яму далі, каб таксама правезці праз мяжу тавар без пошліны.

**М.К.**

## Украінцу не пашанцавала

**На мазырскай мытні быў затрыманы грамадзянін Украіны М.Порташ.**

Закупіўшы ў Венгрыі амаль дзве тысячы пар скуранога абутку на суму 1 мільярд 952 мільёны беларускіх рублёў, ён спадзяваўся даставіць гэты тавар у Расію, схаваўшы яго ад мазырскіх мытнікаў. У выніку ўвесь абутак канфіскаваны ў даход дзяржавы, да таго ж кантрабандысту давялося заплаціць па суду яшчэ паўмільёна беларускіх рублёў штрафу. Абадраўшы як ліпку, камерсанта адправілі на бацькаўшчыну.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## «Навінкі» для сталічных чытачоў

Нядаўна мне давялося пабачыць лагатып нашай газеты ў неўласцівым яму месцы. Пад месцам я маю на ўвазе проста нейкую іншую газеціну, да таго ж зусім не фармату НАВІНАЎ (яна складаецца з 12 старонак на стандартных аркушах). Праўда, прыгледзеўшыся, я заўважыў, што гэта не ў поўнай меры наш лагатып: слова НАВІНЫ трохі зменена. Назва новай газеты — «Навінкі». Акрамя простага значэння слова (г.зн. якія-небудзь навінкі на інфармацыйным рынку), гэтую назву можна тлумачыць як памяншальна-ласкальную форму — гэтакія «маленькія навіны». Але перш за ўсё ў мінчукоў гэтае слова асацыюецца з прыгарадам сталіцы, дзе знаходзіцца вядомы псіхіятрычны шпіталь.

І адно, і другое тлумачэнні назвы адпавядаюць зместу выдання. Першае — таму, што на ролю сур'ёзнага асвятляльніка навінаў газета не прэтэндуе. А другое — бо ўсім сваім зместам газета, умоўна кажучы, ацэньвае цяперашні стан нашай краіны адпаведным дыягназам.

Увогуле ж напаўненне газеты «Навінкі» можна ахарактарызаваць як інтэлектуальны сцёб ці гульню вольнага розуму. Газета складаецца з імправізацыяў на розныя тэмы, пераважна з палітычным адценнем. Творчыя вырашэнні знаходзяцца розныя: ад салідных (па аб'ёме) артыкулаў да подпісаў буйнымі літарамі пад здымкамі. Напрыклад, на апошняй старонцы чытаем: «Мы, беларуская дыяспара ў Амерыцы, горача вітаем цябе і віншуем з надыходзячым святам — 80-й гадавінай абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі». Гэтае віншаванне змешчанае пад фатаграфіяй з выявамі неграў.

«У хакейным матчы з беларусамі японцы выкарыстоўвалі радыёкіраваную шайбу!» — паведамляецца ў падзагалоўку адна-го з матэрыялаў. Што гэта — пэўныя рэальныя тэндэнцыі, даведзеныя да абсурду? Але калі ўзгадаць выпадак у Нагана, дзе Лукашэнка патлумачыў няўдачы беларускіх і расійскіх спартсменаў падкопамі міжнароднай мафіі, — дык па ступені абсурднасці рэаліі цалкам канкурэнтаздольныя з прыдумкамі.

Яшчэ адна нататка — пра тое, як Моніка Левінскі пераключыла свае сексуальныя заляцанні з прэзідэнта Біла Клінтана на «лідэра партыі Беларускі Народны

НАВІНКІ

Серада, 25 лютага 1998 № 1 Кошт свабодны

Моніка Левінскі *клеіцца да* лідэраў беларускай апазыцыі

Усё ідзе да новага палітычнага скандалу, так лічыць амэрыканскі штотыднёвік *Newsweek*. У фокусе патэнцыйнага скандалу вядомая афэрыстка Моніка Левінскі з сваімі незадаволенымі сэксуальнымі пачуцьцямі. Не пасьпеў заціхнуць скандал адносна таго, што Біл Клінтан меў з Монікай нейкія сэксуальныя кантакты, як усё пачалося ізноў. Чарговай ахвярай заклапочанай амэрыканкі стаў Зураб Станіслававіч Хмызьняк -- адзін зь лідэраў беларускай апазыцыі, які зараз жыве ў эміграцыі ў ЗША.

к пішуць амэрыканскія бульварныя газэты, сустрэчы Зураба й Монікі набылі падазрона стаянны характар. Гэта пачалося 2 тыдні таму пад с прыёму з нагоды адкрыцьця Беларускага Цэнтру пісnaў -- новага аддзелу ў структуры ЦРУ. Моніка ў ршыню пабачыла тады ільвіную ...

Тыл Зураба Станіслававіча Хмызьняка, «які зараз жыве ў эміграцыі ў ЗША». Падумалася: калі б у нататцы фігураваў які-небудзь «Алі Рыгоравіч Кукішэнка» — цалкам верагодна, што беларускія ўлады распачалі б пераслед рэдакцыі газеты. Няясна, аднак, дзе тую рэдакцыю шукаць. У выходных даных пазначаецца «На правах рукапісу» — і ніякага адраса, натуральна, няма.

Наколькі нам вядома, «інкогніты» збіраюцца працягваць сваю патаемную дзейнасць, і першы нумар выдання не стане апошнім. Мяркуецца зрабіць «Навінкі» рэгулярнымі: 2 разы на месяц.

Са свайго боку мы хочам пагладзіць маладую газецінку па галоўцы і пажадаць «Навінкам» хутчэй вырасці. Не ў тым сэнсе, што дарасці да сур'ёзных навінаў — а каб павялічыць наклад і распаўсюджвацца ў грамадстве.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

*«Навінкі» паведамляюць...*

## Янкі ў горадзе

Не паспела наша беларуская зборная па хакеі ўступіць у пятніцу, 13 лютага хакеістам ЗША, як ужо ў суботу на вуліцах Мінску амэрыканскія хакейныя фанаты ладзілі святкаванне перамогі. Некалькі соцень чалавек прайшліся ад плошчы Якуба Коласа да Опернага тэатра, скандуючы «I love USA», размахваючы зорна-паласатымі сцягамі і малюючы спрэямі на сценах надпісы правакацыйнага зместу, кшталту "Сьвяты Валянцін — мнагажэнец".

Большую частку дэманстрантаў складалі негры, якіх амерыканская амбасада спецыяльна вывезла ў Беларусь на спецсамалётах, паабяцаўшы кожнаму пазачарговы прагул і пару бутэлек брэндзі. Адразу па прылёце ў аэрапорт «Мінск-2» небаракаў пастроілі ў калоны, пафарбавалі крэйдай, уручылі сцягі, партрэты прэзідэнта Клінтана і пагналі як баранаў у горад на дэманстрацыю. Супрацоўнікі амбасады, апранутыя ў цывільнае і з бізунамі, уважліва сачылі, каб ніхто з удзельнікаў святочнага маршу не сачкаваў. Падчас маршу не абышлося без інцыдэнтаў. Шмат інтурыстаў адстала ад калоны і згубілася ў цэнтры горада. Каб знайсці сваю групу, ім прыйшлося прыбегчы да дапамогі міліцыі.

**«НАВІНКІ», № 1**

## Хваля самагубстваў у Японіі

*Прычына — эканамічныя цяжкасці*

Адзін з самых апошніх прыкладаў: тры японцы сталага ўзросту павесіліся ў адным нумары гатэля побач з Токіо. Яны былі камерцыйнымі партнёрамі ў гандлі аўтамабільнымі запчасткамі. Усе трое развіталіся з жыццём у аднолькавых белых сукенках, а побач знайшлі аднолькавыя пляшкі з-пад віскі. Адзін з бізнесменаў пакінуў запіску, у якой паведамляў, што ўсе яны пайшлі на самагубства з прычыны фінансавых цяжкасцяў іхняй кампаніі.

Як паведамляе японская паліцыя, гэта ўжо сёмае самазабойства з пачатку 1998 года. А летась фінансавыя цяжкасці падштурхнулі да самагубства 478 японскіх бізнесменаў.

## Умирать не запретишь

**Британская "Таймс" опубликовала данные о количестве самоубийств, совершенных на территории России за последние семь лет.**

В период с 1990 по 1992 год в стране было отмечено около ста тридцати тысяч случаев суицида. С 1993 по 1996 год это число выросло почти вдвое. Прошедший год хотя и не внушает оптимизма, но все же свидетельствует о некотором спаде волны самоубийств в России. В 1997 году приблизительно пятьдесят пять тысяч россиян решили свести счеты с жизнью. По оценке экспертов, это на десять процентов меньше по сравнению с предыдущим годом. "Что ожидает россиян в этом году?" — спрашивает газета. Ведь жизнь в стране отнюдь не улучшилась. Не секрет, что к последней черте людей подталкивает именно неудовлетворенность условиями жизни.

## Греков все меньше

**Правительство Греции крайне озабочено низким уровнем рождаемости в стране.**

За прошедший год в стране родилось всего 90.200, при этом количество умерших превысило эту цифру на шесть процентов. Власти готовы сделать все, чтобы исправить сложившуюся ситуацию, например, ввести специальную программу помощи многодетным семьям и работающим матерям. В частности, программа предусматривает снижение платы за жилье и подоходных налогов. Семьям новорожденных будут выплачиваться специальные пособия, а работающим родителям предоставят льготы. Руководство страны решило прислушаться к прогнозам ученых-демографов, которые предупреждают, что если не стимулировать рождаемость, то в ближайшее время численность населения Греции может опуститься ниже десятимиллионной отметки.

*По материалам зарубежной прессы подборку подготовили* **Ростислав ПЕРМЯКОВ** и **Владимир АБАНИН**

## Сюрпрыз з космасу

**Побач з Зямлёй праляціць велізарны астэроід! — крычаць на першых старонках заходнія газеты.**

Па падліках астраномаў, праз трыццаць гадоў вялікі астэроід праляціць побач з нашай планетай. Калі раптам ён сутыкнецца з Зямлёй, гэта будзе катастрофа планетарнага маштабу. Як мяркуе французскі даследчык Ален Мары, узнімецца столькі пылу, што паўгода ці нават год Сонца зусім не будзе відаць.

Астэроід мае назву 1997-XF11, ягоны дыяметр — паўтара кіламетра. Чакаецца, што 26 кастрычніка 2028 года ў 2.30 па сярэднееўрапейскім часе астэроід пройдзе ўсяго ў 40 тысячах кіламетраў ад Зямлі — у дзесяць разоў бліжэй, чым Месяц. Як паведаміў Браен Марсдэн, астраном Кэмбрыджскага універсітэта, так блізка ад нашай планеты вялікія касмічныя аб'екты яшчэ не праходзілі. Апошні раз вялікі астэроід пралятаў побач з Зямлёй у траўні 1996 года, але дыстанцыя была значна большай — 400 тысячаў кіламетраў.

Але ці варта панікаваць? Астраномы супакойваюць: магчымасць сутыкнення з Зямлёй вельмі малая. Але ж яна ёсць...

## Не курить никому и нигде!

**В Калифорнии вступил в силу закон, запрещающий курение даже в барах и казино. Курение на рабочих местах, расположенных в закрытых помещениях, было запрещено в этом штате еще в 1995 году.**

По мнению официальных лиц, главной целью закона является не преследование курильщиков, а избавление некурящих от пассивного вдыхания сигаретного дыма, что приводит к заболеваниям дыхательных путей и раку лёгких. Введение нового закона было неоднозначно встречено жителями штата. Заядлые курильщики не скрывают своего возмущения: «Они забыли, что в Лос-Анджелесе люди дышат не только сигаретным дымом, но и выхлопными газами. Так что, теперь запрещать ездить на машинах? Тем более, что я — владелец своего кафе. Почему же не мне решать, курить в собственном заведении или нет?»

Нарушители закона, однако, рискуют понести значительные финансовые убытки. За первое нарушение владелец заведения может быть оштрафован на 100 долларов, а последующее обойдется ему уже в 7.000 долларов. Посетители баров и казино, если вдруг закурят, также будут подвергаться штрафу.

## Меньше детей — богаче Китай

**К середине следующего века численность населения Китая достигнет своего пика и начнет постепенно снижаться.**

По прогнозам государственной комиссии по планированию семьи, в 2050 году население Китая достигнет 1 миллиарда 600 миллионов человек. Затем начнет приносить плоды пропаганда ограничения рождаемости. Уже в прошлом году уровень рождаемости снизился более чем на 1,5 процента по сравнению с уровнем пятилетней давности. На конец 1997 года общее количество населения Китая, включая присоединившийся Гонконг, составило 1 миллиард 243 миллиона человек.



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1165 Нумар падпісаны ў друк 17.03.98 (15:00) Наклад — 15.400